ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 14 (2312) 8 красавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

ХТО "РАСШАТЫВАЕТ СТАБИЛЬНОСТЬ"?

## Мікалай СТАТКЕВІЧ: "У НАШЫМ ВОЙСКУ ІСНУЕ ПАЛІТЫЧНАЯ АПАЗІЦЫЯ"

Цярпенне лопнула пасля таго, як Каардынацыйная рада Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) выступіла з заявай і прапанавала ўраду і Вярхоўнаму Савету, што трэба зрабіць, каб Беларускае войска стала сапраўды беларускім — верным народу і дзяржаве. Вось тады Міністэрства абароны і закасала рукавы, прыняўшы баксёрскую стойку. Сам міністр патрабаваў ад вышэйшых улад забараніць БЗВ як арганізацыю палітычную, дэструктыўную, якая совае свой нос туды, куды яе не просяць. А прэс-цэнтр Міністэрства абароны абвінаваціў лідэраў БЗВ, абазваўшы іх "политическими кукловодами", у "расшатывании стабильности в Беларуси в целях срыва социально-ориентированных экономических реформ и втягивании армии в политические процессы".

У гэтай пазіцыйнай вайне свой баявы *зарад па праціўніку — Міністэрству абароны* — выпусцілі 14 дэпутатаў ад апазіцыі БНФ, узяўшы пад сваю ахову БЗВ і абвінаваціўшы "пэўныя сілы" ў імкненні "скасаваць нейтралітэт Беларусі і ўцягнуць нашу краіну ў ваенную сістэму калектыўнай бяспекі".

21 сакавіка, адзначаючы 75-я ўгодкі БНР, хлопцы з Мінскай арганізацыі БЗВ паказалі і Міністэрству абароны, і ўладам, і грамадскасці, што іх рады папаўняюцца свядомымі беларусамі, гатовымі, калі што, бараніць сваю дзяржаву.

Таму, сустрэўшыся са старшынёй БЗВ падпалкоўнікам Мікалаем СТАТКЕВІЧАМ, я папрасіў яго пракаменціраваць прафесійна, па-вайсковаму сітуацыю, якая склалася вакол БЗВ.

— Сітуацыя гэта звязана са станам войска. Стварыць нацыянальнае войска — нацыянальнае па духу, надзейнае, якое здолела б абараняць дзяржаву, узяўшы за аснову войска другое, у даным выпадку былое савецкае, відаць, можна, але гэта вельмі доўгі і цяжкі працэс, таму што, вобразна кажучы, трэба людзям іншыя мазгі ўставіць. І таму, паўтараю, гэты працэс будзе ісці даволі доўга. На Украіне, нашто ўжо радыкальныя захады зроблены, і тым не менш афіцыйныя прадстаўнікі, у тым ліку і міністр абароны, заяўляюць: у нас пакуль што надзейнага, адданага ўкраінскаму народу войска няма, мы яго толькі ствараем. А там жа зроблены рашучыя крокі — і прысяга была амаль на год раней, чым у нас, прынята, і на ключавых камандныя пасады адбор прынцыповы і жорсткі.

У нас жа нібыта ўсё ціха і ўсё добра. Нібыта гэтае войска ўжо ёсць. Але, на наш погляд, сітуацыя ў Беларусі значна горшая, чым на Украіне і ў Расіі. У беларускім войску пануюць настальгічныя настроі па старой арміі, па СССР.

**— Але ж вы, Мікалай Віктаравіч, не станеце пярэчыць, што ў Беларускім войску ўсё ж зрухі ёсць. Зрухі да таго, каб яно стала нацыянальным па духу, па ўсведамленню сваіх задач. Ці не так!**

— Канечне ж, працэс стварэння нацыянальнага войска адбываецца — вывучаецца мова, гісторыя, але гэты працэс ідзе крайне марудна і фармальна. Асноўныя прычыны ў тым, што армія — структура іерархічная і там вельмі многае залежыць ад начальства, ад таго, хто зверху сядзіць. І наш вопыт сведчыць: у тых часцях, якімі камандуюць шчырыя і свядомыя патрыёты беларускай дзяржаўнасці, сітуацыя зусім іншая, там іншае стаўленне да мовы, да гісторыі, там іншы настрой сярод афіцэраў. Сярод афіцэраў, падкрэслю, розных нацыянальнасцей, а не толькі беларусаў. Але, на жаль, такіх часцей і падраздзяленняў вельмі мала. І афіцэры выдатна адчуваюць тыя імпульсы, якія ідуць зверху, хаця афіцыйна і не абвяшчаюцца. Усё залежыць ад першых асоб, у тым ліку і ў Міністэрстве абароны, якія кантралююць і расстаўляюць кадры, праводзяць акрэсленую палітыку.

**— У заяве прэс-цэнтра Міністэрства абароны БЗВ названа арганізацыяй, якая ставіць палітычныя мэты. А гэта недаравальна...**

— Па-першае, БЗВ не з'яўляецца арганізацыяй палітычнай. А па-другое, у нашага Міністэрства абароны няма ніякіх скаргаў на Саюз афіцэраў, на Славянскі сабор. Гэта палітычныя арганізацыі, якія дзейнічаюць у нашым войску і дзейнасці якіх ніхто не чыніць перашкоды. А яны ж адкрыта праводзяць антыдзяржаўную палітыку: выступаюць супраць дзяржаўнасці беларускай мовы, выступаюць за нейкія адзіныя ўзброеныя сілы, за нейкі саюз. І гэтыя людзі сустракаюць падтрымку.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ"! ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!**

**З 22 сакавіка пачалася кампанія па падпісцы на газеты і часопісы на другое паўгоддзе 1993 года. Не марудзьце! Кампанія будзе доўжыцца ўсяго два месяцы. Спяшайцеся афарміць падпіску загадзя. Гэта адзіны спосаб пазбегнуць недарэчнасцей і памылак, якія мелі месца ў першым паўгоддзі, і застацца разам з намі.**

**Усе даныя аб "Голасе Радзімы" ёсць, вы іх знойдзеце і ў рэспубліканскім, і ў каталогу СНД. Кожны дзень вашага прамаруджвання — лішні крок да магчымасці страціць сувязь з "Голасам Радзімы", адзінай рэспубліканскай газетай, якая жыве і працуе як для замежных суайчыннікаў, так і для нашых суграмадзян.**

## ЗМАГАННЕ ЗА БЕЛАРУСЬ

**Мінск. Плошча Незалежнасці. Тут, у Доме ўрада і каля яго сцен, нібы сфакусіраваліся галоўныя палітычныя падзеі апошніх тыдняў, што расколваюць нашу маладую і яшчэ не набраўшую моцы дзяржаву. Як выжыць! — вось, бадай, асноўнае пытанне, што хвалюе і Вярхоўны Савет, і народ у вёсках і гарадах. Вядома ж, народ чакае, што вярхоўная ўлада рэспублікі дасць не толькі ясны адказ на пытанне, пастаўленае жыццём, але і прапануе канкрэтную, рэальную праграму.**

**Наш парламент нібы знайшоў выхад з драматычнага становішча, прапанаваўшы эканамічны саюз з Расіяй, Казахстанам і іншымі краінамі СНД. Да гэтага адчайнага кроку яго падштурхнулі пэўныя сілы і ў самім Вярхоўным Савеце і ўрадзе, і ў грамадстве. Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя, Саюз аграрнікаў Беларусі і іншыя структуры, што аб'ядноўваюць людзей, якія трымаюць у руках кіраўніцтва эканомікай, можна сказаць, паставілі нашаму парламенту ультыматум: або Вярхоўны Савет прымае рашэнне аб стварэнні эканамічнага саюза, або дырэктарскі, кіраўніцкі корпус выводзіць калоны заводскіх калектываў на вуліцы.**

**Вядома ж, прыхільнікі гэтай ідэі аргументуюць свой падыход трывогай і клопатам за лёс народа, за Беларусь.**




**За якую Беларусь! — пытаецца парламенцкая апазіцыя. У разе далучэння да эканамічнага саюза, а за ім, як здань, стаіць і дагавор аб калектыўнай бяспецы, суверэнітэт Беларусі, абвешчаны ёю нейтралітэт ставяцца пад пагрозу. Ідзе змаганне за Беларусь. За якую Беларусь! Кожны бачыць яе, выходзячы са сваёй палітычнай платформы. А народ! Народ цярпліва маўчыць. Народ спадзяецца, што неяк жа там будзе!..**

**НА ЗДЫМКУ: пікеты ля Дома ўрада ў час работы сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ДЭПУТАТЫ СУПРАЦЬ

## БЯЗ'ЯДЗЕРНЫ СТАТУС МІНСКА

**Другі раз народныя дэпутаты Мінскага гарсавета адмовіліся ўключыць у парадак дня сваёй сесіі пытанне аб бяз'ядзерным статусе беларускай сталіцы.**

**Між тым, бяз'ядзерныя зоны ахопліваюць сёння тэрыторыю, якая складае больш 25 працэнтаў усёй паверхні Зямлі і ахоплівае больш 15 працэнтаў усяго насельніцтва. На нашай планеце дзейнічае звыш 4,5 тысячы бяз'ядзерных зон мясцовага значэння, размешчаных у 24 краінах. У кастрычніку такой зонай стаў горад Кіеў. Яго гарсавету давялося папрацаваць паўтара года, каб дабіцца прыняцця такога рашэння. Нямала прыхільнікаў гэтай ідэі і сярод мінчан. Гарадскім аддзяленнем Беларускага экалагічнага саюза і пастаяннай дэпутацкай камісіяй па экалогіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў ужо падрыхтаваны сумесны праект Дэкларацыі бяз'ядзернай зоны.**

**Калі Мінск будзе аб'яўлены такой зонай, на яго тэрыторыі забароняць распрацоўку, захоўванне, транспартаванне ядзерных сродкаў, зброі і іх кампанентаў.**

*"І Расійская імперыя, і Савецкі Саюз стваraліся Расіяй і вакол яе. Усе буйныя эканамічныя рашэнні прымаліся ў Маскве, структура рэспубліканскіх эканомік вызначалася там жа. Таму мне здаецца справядлівым гаварыць пра маральную, гістарычную адказнасць Расіі за дабрабыт тых народаў, будучыню тых рэспублік, якія яна з сябе скінула. Крокі, зробленыя Масквой пасля жніўня 1991 года, дазваляюць менавіта так разглядаць тое, што адбылося, — Расія скінула з сябе "ярмо", якое стала цяжкім. У гэтай сувязі дарэчы адзначыць, што ідэя ўзнаўлення Саюза ССР нейкі час яшчэ можа быць лозунгам асобных палітычных груповак, але ўжо не стане сур'ёзнай састаўляючай расійскай знешняй палітыкі. У першую чаргу гэта супярэчыць карэнным інтарэсам самой Расіі.*

*Але свае інтарэсы ёсць і ў Беларусі. Яны ў тым, што, прыняўшы рашэнне аб палітычным размежаванні, мела б сэнс на час пераходу да рынку захаваць адзіную эканамічную прастору. У рамках СНД можна знаходзіць саюзнікаў і ўздзейнічаць на Расію такім чынам, каб ахвярамі расійскіх эканамічных эксперыментаў не станавіўся наш народ".*

*( З інтэрв'ю Г. ТАРАЗЕВІЧА, былога Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, "Народнай газеце").*

ЦІ Ж ВЫХАД?

## ШУКАЮЦЬ ПАРАТУНКУ

**Што агульнага паміж Мазырскім заводам кармавых драджджэй і яго перапялінай фермай, якая нядаўна з'явілася ў адным з цэхаў! Імкненне выбрацца з даўгавой ямы. Справа ў тым, что вытворчасць прадукцыі на прадпрыемстве скарацілася.**

**У выніку завод вінаваты сваім пастаўшчыкам 1 мільярд 100 мільёнаў рублёў пры 400 мільёнах рублёў доўгу яго спажыўцоў. У гэтай надзвычайнай сітуацыі, якая выклікана дзікім рынкам, завадчане і кінуліся шукаць паратунку. Спачатку наладзілі выпуск некаторых відаў касметыкі, а зараз узяліся за перапёлак, якіх вырашылі гадаваць інкубатарным метадам. Толькі ад продажу яек з іх вядомымі лекавымі ўласцівасцямі за сёлетні год завод можа мець каля 3 мільёнаў рублёў прыбытку.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## ЭКАНАМІЧНА-ГАНДЛЁВАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Вытворчае аб'яднанне "Мінскі трактарны завод" арганізавала прэзентацыю новых машын МТЗ-80, 102, 530, 820, а таксама міні-трактароў і мотаблокаў.**

**На прэзентацыі перад журналістамі выступілі генеральны дырэктар аб'яднання І.Куляшоў і пасол ЗША Д. Суорц. Яны расказалі, што беларускія трактары набылі добрую вядомасць як у нас, так і за мяжой.**

**У Смаргонскім філіяле аб'яднання ідзе зборка міні-трактароў і мотаблокаў. Рухавікі на іх устанаўліваюцца амерыканскія. Узоры новых "міні" адпраўлены на выпрабаванні ў ЗША, а таксама для іх продажу там. Папярэднія вынікі вельмі станоўчыя. Аб гэтым заявіў Д.Суорц.**

**Ён таксама адзначыў, што ў лютым увайшло ў сілу гандлёвае пагадненне ЗША з Беларуссю. Для МТЗ уводзіцца рэжым найбольшага спрыяння.**

РАШЭННЕ ПРАФСАЮЗАЎ

## АДПАЧЫНАК — КОЖНАМУ ПА КІШЭНІ

**У сезон адпачынкаў жыхарам Беларусі не давядзецца ламаць галаву над праблемай набыцця пуцёвак.**

**Санаторнае лячэнне і адпачынак у рэспубліканскіх здраўніцах будуць сёлета па кішэні кожнаму, хто з'яўляецца членам прафсаюза. Для гэтага чалавеку дастаткова заплаціць 5 працэнтаў ад кошту пуцёўкі ў санаторый, уключаючы дзіцячыя пансіянаты і месцы адпачынку для бацькоў з дзецьмі. Такое рашэнне ў сувязі са значным падаражаннем санаторна-аздараўленчых паслуг прыняў прэзідыум савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Акрамя таго, прафсаюзным камітэтам прадастаўлена права да 20 працэнтаў пуцёвак на санаторнае лячэнне і адпачынак выдаваць бясплатна.**

КАШЧУНСТВА



**У мінскім парку Дружбы знявечаны помнік ахвярам Чарнобыля. Былі сарваны бронзавыя дэталі: крыж і надпіс. Ці знойдуць іх, цяжка сказаць. На гэты метал вялікі попыт, і, магчыма, яго паспеюць злодзеі пераплавіць, каб збыць за добрыя грошы. Вядзецца пошук вінаватых і працаўнікоў.**

**Пакуль жа выканаўчы дырэктар Беларускага саюза ўдзельнікаў ліквідацыі чарнобыльскай катастрофы "Прыпяць" Анатоль Бароўскі звярнуўся да ўсіх, у каго не ачарсцвела сэрца, дапамагчы аднавіць помнік.**

ПАДПІСАНА КАМЮНІКЕ

## УГНАЕННІ ЗА НАФТУ

**Падпісаннем камюніке аб наладжванні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Ісламскай Рэспублікай Іран завяршыўся афіцыйны візіт у Мінск намесніка міністра замежных спраў Ірана Махмуда Ваязі.**

**Адным з прыярытэтных напрамкаў двухбаковага эканамічнага супрацоўніцтва з'яўляецца ўзаемавыгадны гандаль. Іран хацеў бы пастаўляць у Беларусь нафту і тавары народнага спажывання, атрымліваючы ўзамен хімічныя ўгнаенні і прадукцыю машынабудавання.**

ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ

## МІНСКАЙ ЕПАРХІІ — 200 ГОД

**Мінскай Епархіі сёлета спаўняецца 200 гадоў. У сувязі з гэтым Епархіяльны савет плануе правесці серыю святочных мерапрыемстваў. У складзенай праграме — паломніцтва праваслаўных арганізацый у горад Тураў і адкрыццё там помніка Кірылу Тураўскаму, навуковы калёквіум, выстаўка "Беларуская праваслаўная царква. Гісторыя і культура". Асноўныя дзействы прыпадуць на 26—27 чэрвеня — гэта дні ўсіх беларускіх святых.**

АПЕРАЦЫІ БЕЗ СКАЛЬПЕЛЯ

**Ці стануць для хірургаў Беларусі звыклай справай аперацыі без скальпеля! Упершыню ў Мінску праводзіўся міжнародны сімпозіум, прысвечаны праблемам бясскальпельных аперацый у клінічных бальніцах. Яго арганізатары — Міністэрства аховы здароўя рэспублікі і Маскоўскі медыцынскі цэнтр "Медкамцэнтр". У ім прымалі ўдзел вядучыя хірургі Расіі і Беларусі. Яны абмяркоўвалі пытанні выкарыстання сучасных метадаў эндаскапіі ў спалучэнні з малатраўматычнымі ўмяшаннямі ў розных галінах медыцыны, — хірургіі, уралогіі, траўматалогіі. Прайшлі лекцыі, семінары, на якіх можна было ўбачыць, як робяць гэтыя аперацыі "піянеры" прагрэсіўнага напрамку — хірургі Расіі.**



**Дарэчы, бясскальпельныя метад шырока прымяняецца на Захадзе. 60 працэнтаў усіх аперацый праводзяць менавіта так. І галоўная задача сімпозіума — дапамагчы беларускім хірургам асвоіць новую справу. У рэспубліцы толькі лічаныя спецыялісты ў стане сёння працаваць падобным чынам. А эфектыўнасць жа такіх аперацый даволі высокая. Як паказвае практыка, хворы губляе значна менш крыві, чым пры звычайнай аперацыі, ды і працэс выздараўлення паскараецца ў некалькі разоў.**

**У рамках сімпозіума прайшла выстаўка найноўшага замежнага інструментарыя і прыбораў для эндаскапічных і адкрытых аперацый, рэанімацыйнага абсталявання, сродкаў для лячэння ран, спынення крыві. Нашы хірургі змаглі не толькі ўбачыць, але і купіць тое, чаго ім так не хапае ў штодзённай працы.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ЗНЕШНЕГАНДЛЁВЫ абарот Беларусі ў 1992 годзе склаў 1 801,5 мільёна долараў ЗША. Пры гэтым экспарт тавараў з рэспублікі вылічваецца 1 060,8, а імпарт – 737,1 мільёна долараў. Летась Беларусь гандлявала з усімі дзяржавамі экс-СССР, а таксама з 92 дзяржавамі далёкага замежжа.

УРАД Канады прыняў рашэнне выдзеліць грашовыя сродкі Дзіцячаму фонду ААН на закупку лекаў для Беларусі, Расіі і Украіны. З гэтай мэтай у Мінск прыбудзе спецыяльная камісія для вызначэння патрэб і аб'ёмаў паставак.

КАЛЯ 50 фільмаў – гульнявых, анімацыйных, дакументальных і навукова-папулярных – будзе паказана ў рамках Другога Міжнароднага фестывалю жаночага кіно, які пройдзе сёлета ў канцы красавіка ў Мінску.

РАНЕЙ у рэспубліцы карысталіся машынкамі з рускім шрыфтам. А сёлета ў Беларусь паступяць неўзабаве пішучыя машынкі з Італіі з беларускім шрыфтам.

САВЕТ Міністраў Беларусі зацвердзіў аб'ёмы капітальных укладанняў, накіраваныя на будаўніцтва жылля для вайскоўцаў, звольненых у запас ці адстаўку. На гэтыя мэты будзе выдаткавана 4 мільярды 800 мільёнаў рублёў.

## ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА: ГАНЬБА ЦІ ПАРАТУНАК?

# РУКА З ХЛЕБАМ

З НАДЫХОДАМ "перестройки" амаль увесь свет вырашыў, што нас трэба ратаваць, і пачаў шырокамаштабную кампанію гуманітарнай дапамогі СССР. Тэма гэтая на пэўны час стала пануючай як у прэсе, так і ў прыватных размовах. Ці патрэбна нам дапамога, хто каго перамог у другой сусветнай вайне, сорамна ці не прымаць бясплатныя падарункі ад замежных ахвяравальнікаў? Пытанняў было многа. А дапамога ішла. Рознае здаралася: часам пад выглядам падарункаў ад чыстага сэрца нам дасылалі пратэрмінаваныя лекі і прадукты. Здараліся і іншыя казусы, накшталт таго, калі вар'яцкаму дому ў адным з гарадоў Расіі немцы дапамаглі цёплым адзеннем, даслаўшы туды зімовую форму арміі былой ГДР. Адразу і не зразумееш, што гэта — здзек з псіхічнахворых ці з арміі былой сацкраіны. Аднак паступова вал гуманітарнай дапамогі стаў аціхаць, і можна з упэўненасцю сказаць, што тыя, хто яшчэ дапамагае нам дагэтуль, — самыя стойкія і непахісныя. Менавіта так можна сказаць пра членаў нямецкай арганізацыі "Дапамога ў бядзе".

Як пачалася гэтая справа? Вельмі проста, можна сказаць, па-хатняму. 22 лістапада 1990 года ў доме Дзітэра Райнера, кіраўніка арганізацыі, на дзень нараджэння ягонай жонкі сабраліся госці. Год гэты для Германіі быў і назаўсёды застанецца асаблівым: рухнула Берлінская сцяна, якая шмат гадоў штучна раздзяляла адзін народ. Дадайце сюды захапленне Гарбачовым, якога тут сустракалі, як нідзе, прыхільна, і стане зразумелым, чаму падчас сямейнай урачыстасці нарадзілася ідэя дапамагчы рускім, якія, хай і запознена, але выправілі трагічную для нямецкага народа гістарычную памылку. Чаму была выбрана менавіта Беларусь, калі на карце не толькі СССР, але і свету нямала "гарачых кропак", дзе патрэбна дапамога пакутуючым людзям, дзе значна цяжэй, чым у нашай Беларусі, у якой, дзякуй Богу, пакуль што не льецца кроў? Мо таму, што беларусы сталі ахвярамі чарнобыльскай трагедыі, хаця ў той час пра сапраўдныя памеры бяды, напаткаўшай наш народ, члены будучай арганізацыі нават і не здагадваліся. Пра Беларусь ведалі вельмі мала, а Мінск уяўлялі сабе невялікім горадам з насельніцтвам тысяч сорак, не больш. І вось у снежні 1990 года першы транспарт з гуманітарнай дапамогай прыбыў у Мінск. 75 тон прадуктаў, адзення і медыкаментаў з Германіі пад самы Новы год атрымалі тады некалькі дамоў для састарэлых, дзіцячыя інтэрнаты і клінікі. Тады ж у нямецкіх газетах з'явіліся артыкулы, дзе расказвалася, што рускім салдатам, расквартараваным у Германіі, жывецца не вельмі сытна. І хутка новы транспарт з прадуктамі для іх адправіўся ў савецкія воінскія часці, што знаходзіліся на тэрыторыі былой ГДР. Трапіць у рускія казармы, нават пасля аб'яднання Германіі, было вельмі цяжка. Напэўна, менавіта тады Райнер Дзітрых і яго сябры ўпершыню сутыкнуліся з загадкавым рускім характарам, ці па-новаму, менталітэтам, калі людзі, якім патрэбна дапамога, не хочуць яе прымаць, а да тых, хто яе прапануе, ставяцца насцярожана, а часам і варожа. Але ж члены арганізацыі "Дапамога ў бядзе" праявілі настойлівасць, якая, як мне растлумачылі, таксама з'яўляецца часткай менталітэту, але ўжо нямецкага, і да гэтага часу перапісваюцца з салдатамі, якім тады змаглі дапамагчы. Дарэчы, трэба заўважыць, што асноўнай мэтай сваёй дзейнасці члены арганізацыі лічаць менавіта развіццё кантактаў і сувязей паміж нашымі народамі, добра разумеючы, што накарміць усю Беларусь яны не ў стане. І таму наступны крок іх дзейнасці — запрашэнне 30 дзяцей з гарадскога пасёлка Карма Гомельскай вобласці, якія знаходзяцца ў зоне высокага радыяцыйнага забруджвання, на аздараўленне ў Германію.

Пералічваць усе акцыі арганізацыі "Дапамога ў бядзе", якія былі ажыццёўлены за гэтыя гады, доўга. Скажу пра тыя, што найбольш уразілі: у сакавіку 1992 года ў тую ж Карму прыбыў транспарт з гуманітарнай дапамогай. Кожны з жыхароў (а жыве там каля васьмі тысяч чалавек) атрымаў пасылку, якую часам было цяжка данесці да дома. Размяркоўвалі і раздавалі прадукты самі немцы, мінуючы мясцовыя ўлады, якім вельмі хацелася пакіраваць гэтай акцыяй. Ды й сапраўды: дзе ж гэта ў нас бачна, каб нешта размяркоўвалася роўна ўсім, не ўлічваючы пасады, стажу, працоўных поспехаў і інтарэсаў начальства. Можа, менавіта ў гэтым трэба шукаць карані інцыдэнту, які адбыўся праз некаторы час з пастаянным перакладчыкам, давераным асобай і проста добрым сябрам "Дапамогі ў бядзе", мінчанінам Уладзімірам Караваем. Немцы, у якіх гасцілі беларускія дзеці, даведаўшыся пра чарговы транспарт у Беларусь, які суправаджаў Уладзімір, папрасілі яго перадаць знаёмым дзецям невялікія гасцінцы. У Мінску ж, куды Уладзімір і яго сябры прыбылі ў дзве гадзіны ночы, іх... арыштавалі. Міліцыя, што чакала ля самага дома Каравая, абвінаваціла іх у крадзяжы гуманітарнай дапамогі, канфіскавала машыну, а стомленых суправаджаючых адправіла за краты. Уладзіміру давялося званіць у Германію, адкуль хутка даслалі факс, які пацвярджаў, што дапамога — не крадзеная і ніякага злачынства тут няма. Міліцыя, праверыўшы пакеты з падарункамі і ўласныя рэчы затрыманых, адпусціла іх дадому. "Наводзіць парадак" такім чынам значна прасцей, чым, напрыклад, высвятляць, куды знікаюць дзесяткі тон самых розных дабрачынных грузаў, якія потым усё ж такі "ўсплываюць", але чамусьці не ў бальніцах і інтэрнатах, а ў камерцыйных крамах і ларках.

У ліпені 1992 года вызначаліся прыярытэты арганізацыі "Дапамога ў бядзе". Жахліва вызначаліся. У дзіцячым аддзяленні анкалагічнай клінікі ў Бараўлянах скончыліся абязбольваючыя прэпараты. Дзяржава, якая не змагла забяспечыць сваёй будучыні — дзецям — годнага жыцця, не знайшла сродкаў і на тое, каб аблягчыць іх смерць. Хворыя на рак дзеці паміралі ў страшэнных пакутах. У Германію пайшоў факс з просьбай аб дапамозе. Адказ быў хуткі і канкрэтны: 100 кілаграмаў абязбольваючых рэчываў праз некалькі дзён атрымала аддзяленне, якое з гэтага часу было ўзята арганізацыяй пад пастаянны патранаж. Цяпер галоўны ўрач аддзялення пастаянна рыхтуе спісы неабходнага абсталявання і лекаў і перадае іх (хацелася б напісаць — у Мінздраў, але не) немцам. Затое і атрымлівае заказанае і значна больш таго — дзіцячае харчаванне, адзенне, цацкі, нават паперу, каб дзеці маглі маляваць. На Каляды наладзілі цудоўнае свята, на якім кожны атрымаў прыгожы падарунак, свежыя фрукты, цацкі, цукеркі — словам, усё, што патрэбна, каб адчуць сябе хаця б на хвілінку здаровым і шчаслівым. Такая ж дапамога ідзе Дзіцячаму апёкаваму цэнтру. У нашай размове Райнер Дзітрых сказаў, што быў вельмі ўзрушаны, калі ўбачыў, як маці хворых дзяцей у Бараўлянах вымушаны спаць на падлозе: больш няма дзе. Нядаўна Райнер Дзітрых набыў двухпавярховы аўтобус, каб вазіць беларускіх дзяцей на адпачынак у Германію, і грузавы прычэп да яго, на якім хутка прывязе ложкі для бедных матак.

Ці атрымлівае арганізацыя дзяржаўную дапамогу, пацікавілася я. Аказалася, што арганізацыя гэта — недзяржаўная, і таму дапамога нам ажыццяўляецца на ўласныя сродкі яе членаў, а таксама на тое, што ім удалося зарабіць на дабрачынных кірмашах, якія самі ж і арганізуюць, канцэртах, куды запрашаюць лепшых артыстаў з усёй Германіі (і тыя ахвотна і бясплатна выступаюць), а яшчэ — з дабрачынных латарэй і збораў. Усяго ж за гэтыя гады імі была аказана дапамога Беларусі на суму больш за 4 мільёны марак.

І вось тут, як мне здаецца, у чытачоў артыкула заканамерна ўзнікнуць пытанні: чаму немцы гэта робяць? Навошта трацяць час, грошы, сілы на дапамогу людзям, якія часам, схапіўшы сваю пасылку, так спяшаюцца дадому, што забываюць сказаць "дзякуй"? Ды і як, урэшце, ставіцца да гэтых бясплатных падарункаў нам? Пра ўсё я спытала ва Уладзіміра Каравая, і вось што ён мне расказаў:

— Калі мы былі ў Германіі, у невялікай вёсачцы, дзе жылі, мясцовыя жыхары наладзілі прыём для нашых дзяцей. На вечары было многа пажылых людзей, якія ў свой час перажылі вайну і пасляваенны голад у Германіі. Яны гаварылі, што добра памятаюць, як ім цяжка было тады. А адна жанчына расказала, як рускі (там усіх нас называюць рускімі) салдат выратаваў яе, аддаўшы свой бохан хлеба. "Гэты хлеб я ніколі не забуду, — сказала яна. —Тады было цяжка нам, і мы атрымалі дапамогу, зараз павінны дапамагчы самі. А калі ў вас усё стане добра, тады вы дапаможаце каму-небудзь іншаму".

Падумалася тады: як бы ні паварочвалася гісторыя, якія б планы і дактрыны ні распрацоўвалі вялікія палітыкі, ёсць яшчэ народ, простыя людзі, у якіх свае традыцыі, мараль і няпісаныя законы, якія заўсёды гатовы працягнуць руку з хлебам таму, каму ён зараз патрэбны. А можа ў тым, што ва ўсе часы існавала і, веру, будзе існаваць заўсёды гэтая няспынная нітачка дабрыні і спагады, і

(Заканчэнне на 5-й стар.).

# Мікалай СТАТКЕВІЧ: "У НАШЫМ ВОЙСКУ ІСНУЕ ПАЛІТЫЧНАЯ АПАЗІЦЫЯ"

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Вазьміце афіцыёз нашага Міністэрства абароны — газету "Во славу Родины", там даюцца кантактныя тэлефоны і адрасы гэтых арганізацый, прапагандысцкія матэрыялы, рэклама выданняў гэтых арганізацый, рэкамендацыі, на якія матэрыялы звярнуць увагу.

Ці вось бярэш афіцыйны матэрыял, выдадзены Упраўленнем інфармацыі Міністэрства абароны, чытаеш: натуральныя здзекі са спадара Шушкевіча, сумненні ў мэтазгоднасці нейтральнасці Беларусі і г.д.

Пачынаеш аналізаваць стаўленне да дат беларускай гісторыі. Ведаеце, якая шалёная кампанія вялася ў друку прадстаўнікамі Міністэрства абароны, калі святкавалася 8 Верасня — Дзень беларускай вайсковай славы. Ці вось такі факт: Міністэрства абароны арганізуе і праводзіць канферэнцыю ў гонар Суворава, нягледзячы на пратэст грамадскасці. Зноў жа — святкаванне 23 лютага Дня былой Савецкай Арміі. Я разумею, што гэта традыцыйнае свята для многіх людзей, але ж гэта не нацыянальнае і не дзяржаўнае свята. А ва ўсіх мерапрыемствах, якія арганізавалі Саюз афіцэраў і Славянскі сабор, прымае шырокі ўдзел і Міністэрства абароны. Ускладаюцца кветкі пад раманаўскімі сцягамі...

Такое вось стаўленне да БЗВ і да іншых арганізацый.

У Беларускім войску вядзецца непрыкрытая антыдзяржаўная прапаганда. Прыязджаюць прадстаўнікі расейскіх апазіцыйных сілаў, якіх да расейскай арміі і блізка не падпусцяць. За ўдзел у такіх арганізацыях генерал Грачоў адразу з войска звальняе. У нас жа яны дзейнічаюць свабодна і на тэрыторыі часцей суверэннай Беларусі праводзяць сваю прапаганду.

А вазьміце кадравую палітыку. Напрыклад, старшыня Славянскага сабора і першы сакратар ЛКСМБ нядаўна атрымалі павышэнне па службе. А з тых сяброў з кіраўніцтва БЗВ, якія прымалі адкрыта прысягу 8 верасня (яны былі папярэджаны аб звальненні), засталося ў войску толькі пяцёра. Астатнія звольнены. І фармальна не за тое, што яны прынялі прысягу, а па розных іншых прычынах. Адным аб'явілі аб скарачэнні штатаў. Другім сказалі: або звальняйся зараз, і ты атрымаеш кватэру, або пазней і так цябе звольнім, але застанешся без кватэры. А ў афіцэра сям'я, дзеці...

**— Абурае, што наша Міністэрства абароны лепіць ярлыкі афіцэрам з БЗВ і не шкадуе гразі, каб паказаць іх людзьмі, якія дайшлі да апошняй ступені дэградацыі. А прычыну звальнення тлумачыць надта ж "арыгінальна": "...уволен из армии за хулиганское поведение и пьянство". Сумна, але трэба прызнаць, што старыя бальшавіцкія метады барацьбы з людзьмі, адданымі нацыянальнай ідэі, моцна ўкараніліся ў нашым войску.**

— Мы лічым усю гэтую кампанію супраць нас вынікам таго, што ў нашым войску існуе палітычная апазіцыя. І яна дамінуе! Гэта апазіцыя нашаму нейтралітэту, нашай незалежнасці, нашаму адраджэнню. Па сутнасці, гэта антыканстытуцыйная апазіцыя. І БЗВ вымушана змагацца з апазіцыяй. Мы змагаемся ў адзіноце: урад нас не падтрымлівае, Вярхоўны Савет — таксама не, таму мы прымаем увесь удар на сябе.

**— Мне здаецца, цяпер, калі ідэі "калектыўнай бяспекі" з кабінетаў Міністэрства абароны перасяліліся ў кабінеты Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў, з галоў генералаў у галовы палітыкаў, вашы надзеі на разуменне і падтрымку ўрадавых колаў канчаткова рассеяліся. Што вам застаецца?**

— Вядома, калі б мы маўчалі, было б усё ціха і спакойна. Але мы не можам маўчаць, хтосьці павінен сказаць грамадству, што яму рыхтуюць, якую будучыню, хто яго будзе бараніць у разе патрэбы, небяспекі. І заява Каардынацыйнай рады БЗВ закранула самае балючае месца, таму такая хваравітая рэакцыя ў Міністэрства абароны.

Нас цягнуць у "калектыўны дагавор", нягледзячы на абвешчаны нейтралітэт.

З кім ісці ў гэты калектыўны дагавор? Зараз у яго ўваходзіць Расія, сярэднеазіяцкія краіны і Арменія. У Сярэдняй Азіі і Арменіі ідзе вайна або ішла. Адбываюцца нацыянальныя сутыкненні. У Расіі таксама не ўсё спакойна. І нам далучацца да гэтага дагавора, лезці туды? Куды нас зацягваюць? У мяне часам такое ўражанне, што некаторыя з нашых палітыкаў выконваюць ролю агентаў уплыву на карысць чужой дзяржавы.

Кажуць пра неабходнасць тэхнічнага супрацоўніцтва. Але ў нас ёсць дамоўленасць з Расіяй аб такім супрацоўніцтве. Давайце будзем супрацоўнічаць у тэхнічнай вайсковай галіне. А можа ў нас будзе такі дагавор, як некалі ў СССР з Венгрыяй і Чэхаславакіяй, што паслужыла падставай для акупацыі. Не ведаю, можа гэта і ёсць патаемная мэта дагавора, які ўцягне Беларусь у сістэму калектыўнай бяспекі. У нас тут ужо ўсё ёсць: Саюз афіцэраў, мэты якога выдатна выкладзены яго старшынёй; магчыма, тут стварылася б такая структура, якая запрасіла б па дагавору аб калектыўнай бяспецы на дапамогу ваенную сілу звонку. І калі здарыцца, што ў Расіі прыйдуць да ўлады авантурысты, тут ужо механізм будзе гатовы: дагавор ёсць, там такія ж аднадумцы ва ўладзе, тут гэтыя людзі могуць і невялікі фармальны путч утварыць.

Таму мы вымушаны былі расказаць народу праўду аб сітуацыі ў войску. І мабыць натуральна, каб у такой сітуацыі народ сам падбаў аб абароне сваёй дзяржаўнасці. Таму зараз шырока пачынаецца стварэнне арганізацый БЗВ з усіх патрыётаў Беларусі. У нас рух не вайсковы, у нас патрыятычны рух. У нашым статуце ёсць галоўная мэта — абарона незалежнасці і дэмакратыі, мы павінны свае статутныя мэты выконваць. Мы павінны паказаць народу, што ёсць у нас патрыёты, якія гатовы бараніць Айчыну. Мы будзем рыхтаваць людзей, каб яны ў выпадку пагрозы маглі, нават са зброяй у руках, бараніць Радзіму.

Якія б паклёпы на нас ні ўзводзілі, якія б заявы ні друкавалі, мы сваю справу ведаем і мы яе зробім.

Гутарку вёў
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

ДА 75-х УГОДКАЎ БНР

# НЕЗАЛЕЖНАЯ І ВОЛЬНАЯ Ў 1918 ГОДЗЕ...


УСТАЎНАЯ ГРАМАТА

РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.





25 сакавіка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстава "Жыве Беларусь!", якая была адной з цэлага шэрагу акцый, прысвечаных 75-м угодкам БНР. На цырымоніі адкрыцця дырэктар музея І. Загрышаў ахарактарызаваў гэту экспазіцыю як "аб'ектыўны зрэз гісторыі, нашай нацыянальнай ідэі". А кіраўнік Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г. Сурмач зрабіла вызначэнне дзвюх канцэпцый, згодна з якімі ажыццяўляўся падбор матэрыялаў. Першая: Беларуская Народная Рэспубліка сталася апафеозам, лагічным вынікам і здабыткам барацьбы беларускага народа, народа-змагара за нацыянальную незалежнасць. Другая: БНР існавала як дзяржаўнасць і мела гістарычную глебу.

Выстава была арганізавана на грамадскіх пачатках высілкамі некалькіх архіваў, музеяў, фонду КДБ, прыватных бібліятэк. Матэрыялы, размешчаныя ў дзвюх залах, храналагічна ахопліваюць амаль два стагоддзі. З іх глыбіні, з архіўнага забыцця, адкуль яшчэ трэба чакаць галоўнага патоку дакументаў пасля прыняцця закону аб архівах, бо гэтыя — кропля ў моры, паўстаюць асобныя рысы цяжкага і трагічнага развіцця беларускай дзяржаўнасці. Аднак цэнтр і ўся пільнасць увагі — на 1918 год.

У чатырох асноўных вітрынах экспазіцыі размясціліся сведчанні нараджэння і непрацяглага жыцця, дзейнасці БНР. "Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і нізалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Нізалежнаю і Вольнай Дзяржавай", — сведчыць Устаўная Грамата Рады БНР, што была "дана ў Мінску-Беларускім 25 сакавіка 1918 года". Сведчыць 2-я Устаўная грамата да народа Беларусі (копія), якая была "выдана ў Мінску-Беларускім 9 сакавіка (марта) 1918 року": "Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зъезд 5–17 снежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад". Сведчаць іншыя гістарычнай важнасці дакументы і экспанаты: нататкі К. Езавітава пра 1-шы Усебеларускі кангрэс 1917 года, Я. Варонкі аб беларускім пытанні перад Версальскай канферэнцыяй, артыкулы газеты "Наша думка", матэрыялы аб Слуцкім паўстанні, дзяржаўныя пячаткі, узоры пашпартоў.

Дарэчы, з вялікай цікавасцю я прагледзеў Закон аб грамадзянстве БНР ад 14 снежня 1919 года, які налічвае ўсяго каля дзесятка пунктаў. Адным з іх устанаўлівалася, што "прабыванне ў двух падданствах не дапускаецца і лічыцца дзяржаўнай здрадай".

Апроч пералічанага, на выстаўцы знайшлі адлюстраванне і матэрыялы, што тычаць дысідэнцкага руху ў Беларусі. Сведчанні, законы і суд гісторыі — непадкупныя, непадробныя і найбольш аб'ектыўныя. Але ці хопіць у нас розуму і ахвярнасці прыслухацца да іх?

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ:экспанаты выстаўкі; у зале выстаўкі.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



## ШАНУЮЧЫ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА

Паездка ў Вільню была адным з мерапрыемстваў, прысвечаных 75-й гадавіне БНР. 27 сакавіка ранкам дэлегацыя, у якую ўваходзілі прадстаўнікі беларускай эміграцыі Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч з ЗША, кіраўнік беларускай службы радыё "Свабода" ў Мюнхене Вячка Станкевіч, айцец Надсон з Англіі, а таксама вядомыя грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, адправілася да беларусаў у Вільню.

Роўна ў 12 гадзін на могілках Роса адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка вядомаму дзеячу беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя Івану Луцкевічу (аўтар помніка Алесь Міронцык).

У 1991 годзе, у канцы мая, сюды, на могілкі Роса, з Закапане быў перавезены яго прах. Як вядома, Іван Луцкевіч, які прысвяціў сваё кароткае жыццё адраджэнню духоўнасці нашага народа, заўчасна памёр на чужыне ад сухотаў. Доўгія гады яго імя было выключана з грамадскага ўжытку, незаслужана замоўчвалася. І толькі зусім нядаўна, у канцы 80-х, стала магчымым гаварыць і пісаць пра заслугі гэтага чалавека перад сваёй радзімай.

Ля помніка Івану Луцкевічу, дзе сабраліся віленскія беларусы з грамадска-культурнага таварыства "Сябрына", госці з Мінска і далёкага замежжа, прысутнічалі яго нашчадкі і сваякі — Багдан Андрусышын (Данчык), Янка і Алеся Луцкевічы, Лявон Луцкевіч, Маргарыта Пярова.

— Тут, у Вільні, я бачу адраджэнне тых установ, якія пачыналі Іван і Антон Луцкевічы, адбываецца адраджэнне "Нашай нівы", ідзе гаворка і пра аднаўленне дзейнасці Беларускай віленскай гімназіі і музея. Гэта працяг таго адраджэння, якое пачыналі Луцкевічы, працяг іх пачэснай справы, — сказаў на адкрыцці помніка спадар В.Станкевіч.

Пасля адкрыцця помніка ўдзельнікі ўрачыстасцей наведалі выстаўку беларускіх кніг, якая дэманстравалася ў нацыянальнай бібліятэцы Літвы.

Заключным мерапрыемствам святкавання 75-годдзя БНР стала сяброўская сустрэча ў рэстаране "Паланга". Месца гэтае было выбрана не выпадкова. Па Віленскай, 33, з 1914 па 1921 год захоўваліся калекцыі будучага музея, месцілася вялікая бібліятэка-чытальня Барыса Даніловіча. Дом, дзе цяпер знаходзіцца "Паланга", быў апошнім месцам, адкуль выехаў на лячэнне і больш не вярнуўся Іван Луцкевіч.

Спадар Язэп Сажыч, Старшыня Рады БНР, быў шчаслівы сустрэць у Вільні сваіх старых сяброў, змагароў за незалежную і вольную Беларусь. Яго прысутнасць надала ўрачыстасці асаблівую атмасферу.

— Я заўсёды хацеў быць прафесійным вайскоўцам, — казаў спадар Сажыч, — і думаў, што пасля вучобы займуся арганізацыяй Беларускага войска. Тое-сёе мне ўдалося зрабіць, але, на жаль, не ў спрыяльных умовах тая справа была распачата... І цяпер, як я прыехаў у Беларусь, то прыемна быў уражаны знаёмствам з маладымі афіцэрамі са Згуртавання беларускіх вайскоўцаў — спадарамі Статкевічам, Кулешам... Яны сапраўдныя патрыёты, нераўнадушныя да будучыні свайго краю. Шкада, што я не магу цяпер прыняць удзелу ў стварэнні Беларускага войска, якое б магло з годнасцю бараніць незалежнасць сваёй краіны і яе людзей.

**Таццяна АНТОНАВА.**

З ГІСТОРЫІ ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ВЁСАК

# КАРМЯНСКІЯ ВАЛЫНЦЫ

**(Шчыльнасць забруджання цэзіем-137 — 9 кюры на квадратны кіламетр, стронцыем-90 — 0,15 кюры на квадратны кіламетр)**

Першае пытанне, якое ўзнікае пры знаёмстве з гэтай вёскай (Валынцы з'яўляюцца цэнтрам Валынцаўскага сельсавета Кармянскага раёна), наступнае: а чаму Валынцы, што гэта азначае?

У аснове назвы вёскі **Валынцы** ляжыць этнічнае найменне **валынцы.** Яно ўпершыню адзначаецца ў пісьмовых крыніцах з XVI стагоддзя. **Валынцамі,** а таксама **чаркасамі** і **падалянамі** ў той час называлі насельніцтва "маларускага племені", гэта значыць украінцаў. Карэнныя жыхары беларускіх зямель называлі валынцамі перш за ўсё ўкраінамоўных перасяленцаў, групы якіх менавіта з XVI стагоддзя пачынаюць накіроўвацца на тэрыторыю сучаснай Беларусі з Валыні, Галіцыі і іншых месцаў Украіны. Гэтыя перасяленцы з Маларасіі і заснавалі населеныя пункты, якія праз некаторы час сталі вядомымі пад назвамі **Валынцы**. Акрамя Кармянскага раёна, вёска Валынцы існуе ў Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобласці. У мінулым яшчэ два пасяленні з такой жа назвай былі вядомы ў былым Дрысенскім павеце (цяпер — тэрыторыя Верхнядзвінскага раёна), а таксама ў былым Чэрыкаўскім павеце. Дакладны час заснавання кожнага з нагаданых населеных пунктаў неабходна вызначаць асобна, улічваючы іх своеасаблівы шлях у гістарычным "калейдаскопе". Галоўнае, што іх аб'ядноўвае ў гэтым плане, — гэта тое, што ўсе вёскі тыпу Валынцаў не маглі быць заснаваны раней XVI стагоддзя.

Напрыклад, населены пункт Валынцы, што існаваў у былым Чэрыкаўскім павеце, згодна з перапісам 1897 года, лічыўся буйным пасяленнем з 66 дварамі і насельніцтвам 521 чалавек. А вось кармянскія Валынцы ў той час лічыліся толькі лясной старожкай, дзе ў адзіным двары жыло 7 чалавек. Гэтая лясная старожка, як можна меркаваць, была заснавана якраз выхадцамі з Валынцаў Чэрыкаўскага павета дзесьці ў апошнія дзесяцігоддзі XIX стагоддзя. Назва буйной вёскі была перанесена на лясную старожку.

Вось так уяўляецца паходжанне населенага пункта Валынцы Кармянскага раёна. Што ж датычыць іншых геаграфічных назваў на тэрыторыі Беларусі, якія ўскосна ўказваюць на маларускіх перасяленцаў, то, хоць гэта і вядзе нас у бок ад асноўнай тэмы, аб іх варта сказаць больш падрабязна, бо гэтая тэма ўяўляе сабой цікавую старонку беларускай мінуўшчыны, да таго ж маладаследаваную.

Перш за ўсё пра якія назвы ідзе гаворка? Акрамя ўжо нагаданых (**Валынцы**), гэта наступныя: **Чаркасы** (вёска Ашмянскага раёна, былыя вёскі Лепельскага, Мінскага, Вілейскага паветаў, вёска Смаргонскага раёна), **Чаркасы** (вёскі Бешанковіцкага, Докшыцкага, Лёзненскага раёнаў). Некаторыя назвы пасяленняў узніклі як абазначэнні жыхароў па месцу іх паходжання ці першапачатковага пражывання: **Галічы** (Клімавіцкі раён), **Кіевічы** (Капыльскі раён), **Харкавічы** (Бешанковіцкі раён).

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# РУКА З ХЛЕБАМ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

ёсць зарука выжывання чалавецтва?

— Я ніколі не адчуваў сябе прыніжаным, прымаючы дапамогу, таму што ведаю: яна ідзе ад чыстага сэрца. І каб вы бачылі, як радуюцца ёй людзі, - гаварыў У. Каравай. — Ведаеце, мая маці перажыла вайну, немцы расстралялі маю бабулю, яе маці, у іх з бацькам загінула палавіна родных. Можаце ўявіць сабе, якія ўспаміны і ўражанні аб немцах захаваліся ў яе. Калі я вучыўся ў Германіі, яна на тыдзень прыязджала да мяне, але гэты кароткі візіт абярнуўся для яе пакутамі: нават праз дзесяцігоддзі маці цяжка было чуць нямецкую мову. Яна не абрадавалася, калі даведалася, што я стаў супрацоўнічаць з арганізацыяй "Дапамога ў бядзе". Але кожны раз, калі немцы прыязджалі ў Мінск, яны заходзілі да нас, а дома ў мяне часам быў сапраўдны перавалачны пункт. Убачыўшы на свае вочы, як людзі нам дапамагаюць, колькі робяць для нашых старых і дзяцей, маці сказала мне: "Пайду ў царкву, пастаўлю за гэтых немцаў свечку і памалюся за іх..."

Я чуў розныя меркаванні наконт таго, ці патрэбна нам гэтая дапамога. Многія зараз баяцца, што нашы дзеці, паглядзеўшы на прыгожае жыццё за мяжой, вярнуўшыся дамоў, зведаюць шок.

Нічога, гавару я ім. Яны гэты шок пераживуць. Затое, убачыўшы жыццё такім, якім яно павінна быць, самі, можа, стануць іншымі і збудуюць нешта лепшае, чым наш лад.

Я магу зразумець тых, хто зараз гаворыць, што без гуманітарнай дапамогі мы абыдземся і не трэба нам падачак ад замежных ахвяравальнікаў. Сапраўды, калі параўнаць нас з самалійцамі ці эфіопамі, якіх схуднелых, абыякавых, напаўжывых так любяць здымаць амерыканцы на фоне сваіх машын з чарговым харчовым дэсантам, дык мы яшчэ не самыя бедныя. Але пакуль дзеці здаровыя, можна дазволіць сабе разважаць: спатрэбіцца ў выпадку небяспекі дапамога з боку ці ўдасца абысціся сваімі сіламі. Толькі напэўна, каб атрымаць самы аб'ектыўны адказ на гэтае пытанне, трэба задаць яго маці, чые дзеці зараз знаходзяцца ў анкалагічным цэнтры ў Бараўлянах ці ў Рэспубліканскім апёкавым цэнтры. І калі мы самі не змаглі абараніць сваіх дзяцей, давайце хаця б падзякуем тым, хто робіць гэта за нас. Аднак з падзякай яшчэ больш складана, чым з медыкаментамі. Людзі з забруджаных раёнаў да бясплатнай дабрачыннай дапамогі паступова прызвычаіліся (у чым, дарэчы, не віна іх, а бяда) і ўспрымаюць яе, як належнае. Афіцыйныя структуры за два гады так і не заўважылі "Дапамогі ў бядзе". Маўляў, хочаце нешта рабіць — ваша справа, а мы не прасілі. Бывае і горш: аднойчы, пакуль немцы раздавалі пасылкі з прадуктамі, іх машыну абрабавалі.

— Я ўжо два гады гавару ім: вы абралі цяжкі шлях, дапамагаць нам — справа нялёгкая, — гаворыць Уладзімір Каравай. — Аднак яны да ўсіх перашкод ставяцца як да непазбежных выдаткаў. Гэтая работа для іх — своеасаблівае выпрабаванне, рэшата, праз якое адсейваюцца тыя, хто не прымае чужую бяду блізка да сэрца. Колькі разоў, ад'язджаючы з Мінска, той жа Райнер Дзітрых заракаўся вяртацца сюды, гаварыў: усё, гэта — апошні раз, больш ніколі, ні за што... І, праехаўшы ўсяго некалькі кіламетраў, раптоўна гаварыў: а добра было б наступным разам зрабіць вось так ці інакш...

На маё пытанне: "Як вы ставіцеся да праблем, якія ўзнікаюць на вашым шляху?" — Райнер Дзітрых пацiснуў плячамі:

— Праблемы існуюць, каб іх вырашаць, цяжкасці — каб іх пераадольваць. Мы пазнаёміліся з вялікай колькасцю самых розных людзей і думаем, што гэта дасць нам магчымасць вырашыць і камерцыйныя праблемы.

Райнер Дзітрых справядліва заўважыў, што для таго, каб некаму дапамагаць, патрэбны грошы, і немалыя...

Вось і ўвесь расказ пра немцаў, для якіх гуманітарная дапамога Беларусі аказалася не данінай модзе ці аднаразовай акцыяй, а справай, якая змяніла іх жыццё. Але ж ніяк не хочацца мне спакойна паставіць кропку ў канцы гэтага расказа пра добрых немцаў, якія дапамаглі бедным хворым беларускім дзецям. З тугой і горыччу ў апошні час гляджу я на вітрыны мінскіх магазінаў. Гарэлка ўсіх відаў і гатункаў, дарагое футра і каштоўныя ўпрыгажэнні. Аказваецца, усё можна закупіць для нашай жабрацкай і няшчаснай краіны. А вось на медыцынскае абсталяванне, лекі, абязбольваючыя прэпараты для хворых дзяцей — грошай няма, на гэта мы лепш папросім у іх, замежных дабрачынцаў. Ёсць грошы на лішняе, але няма на неабходнае...

Калі немцы прыехалі ў Бараўляны, у анкалагічны цэнтр, і ўбачылі, у якім стане знаходзяцца там, прабачце, туалеты, то ўжо праз месяц туды прыйшлі машыны з сантэхнічным абсталяваннем, якое яны, дарэчы, самі зараз там і манціруюць. А што ж мы? Запэцкацца баімся, ці рукі ў нас зноў да справы не даходзяць? Вядома, прымаць законы, на якія ўжо зараз ніхто не звяртае ўвагі, а заўтра і выконваць іх не будзе каму, значна лягчэй, чым шукаць канкрэтныя шляхі выхаду з цяжкага становішча.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ГОД У ВЫСЫЛЦЫ

# АДАМ СТАНКЕВІЧ У СЛОНІМЕ

Імя рэлігійнага, палітычнага і культурна-асветнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў БХД, рэдактара часопіса "Хрысьціянская думка" Адама Станкевіча (1891 — 1949) паціху вяртаецца з небыцця. Ужо надрукаваны яго працы "Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла. З яго жыцця і працы" ("Спадчына", 1989, N 2), "Вітаўт Вялікі і Беларусы" ("Спадчына", 1990, N 4), "Хрысьціянства і Беларускі Народ" ("Хрысьціянская думка", 1992 N 1), напісаны невялікія артыкулы, а таксама надрукаваны і ўспаміны пра яго.

Хачу сказаць, што яшчэ да вайны Адам Станкевіч пэўны час жыў у Слоніме і вёў богаслужэнне ў касцёле бернардзінак, які знаходзіцца ў цэнтры горада. А выслалі яго сюды з Вільні за тое, што быў беларускім святаром і вёў службу толькі на беларускай мове.

Так, 27 снежня 1938 года выехалі з Вільні выселеныя з прыгранічнай паласы на пяць гадоў рашэннем віленскага ваяводы кс. Адам Станкевіч, кс. Уладыслаў Талочка і інжынер Адольф Клімовіч. У.Талочка пасяліўся ў Беластоку, А.Клімовіч — у Варшаве, а А.Станкевіч — у Слоніме. Праўда, ён яшчэ паспеў перад высяленнем выдаць сваю чарговую вельмі вартасную кніжку "Беларускі хрысьціянскі рух".

Новы 1939 год кс. Адам Станкевіч сустрэў у Слоніме. Акрамя службы ў касцёле бернардзінак (служыў па-польску, па-беларуску польскія ўлады не дазволілі), шмат пісаў на роднай мове, перапісваўся з беларусамі з Вільні, Беластока, Варшавы, Прагі, Мінска, Санкт-Пецярбурга і іншых гарадоў. Тут, у Слоніме, Адам Станкевіч піша вялікую працу "З літуанізмаў у беларускай мове" і друкуе яе ў алфавітным парадку ў некальніх нумарах квартальніка "Калосьсе". Праца гэтая выклікала вялікі рэзананс. Многім яна не падабалася. Так, напрыклад, у газеце "Беларускі фронт" (15.V.39 г., N 10) з"яўляецца вялікі артыкул "Аб "літуанізмах" Адама Станкевіча" нейкага Ш-ць. Ён моцна крытыкуе аўтара, абражае яго, наводзіць паніку і г.д. Прачытаўшы гэта, спадар Станкевіч дасылае са Слоніма ў "Калосьсе" тактоўнае пісьмо-адказ: "Паважаны Грам.Рэдактар, не адмоўце памясьціць у "Калосьсі" гэтых некалькі слоў:

Я дужа ўдзячны гр. Ш-ць ("Бел.фронт" N 10, 15.V.39) за крытычныя і фаховыя ўвагі да маёй працы "З літуанізмаў у беларускай мове"; падчыркваю — за крытычныя й фаховыя, характару языкаведнага, бо-ж, апрача гэтага, чаго там толькі няма?! Але transeat! Мне йдзецъ аб дасьледжаньне літуанізмаў у беларускай мове й з слушных (а ня ўсе так гэткія!) заўвагаў у гэтай праблеме я ахвотна скарыстаю, калі праца мая будзе выходзіць асобнай адбіткай. Тады выкажу так-жа свой пагляд і што да тых заўвагаў гр. Ш-ць, з якімі я не згаджаюся.

Прыміце, Гр. Рэдактар, словы маёй да Вас пашаны. Ад. Станкевіч. Слонім, 17.V.39 г.".

Жывучы ў Слоніме, Адам Станкевіч пільна сочыць за выхадам новых беларускіх кніг. 27 красавіка 1939 года ён піша грунтоўную рэцэнзію на кніжку беларускага вучонага і паэта Хведара Ільяшэвіча "Друкарня дома Мамонічаў у Вільні ( 1575—1622)" і друкуе яе ў часопісе "Калосьсе" (1939, N 2). Крытык спыняецца на кожным з пяці раздзелаў працы Х.Ільяшэвіча, указвае на іх каштоўнасць і значэнне. "Кніжка Хв.Ільяшэвіча, — адзначае А.Станкевіч, — гэта значны ўклад у маладую беларускую навуку. Агульнай, аднак, нястачай кніжкі зьяўляецца нявыразны яе воблік беларускі. Мамонічы — гэта беларускія патрыёты й беларускія культурнікі, й кніжкі іх прызначаны для беларускага народу. Тымчасам гэта ў Хв.І. ня толькі што з націскам не адзначана, але нават як-бы саромліва прыхавана пад бліжэй неазначанымі тэрмінамі: "Русь, рускі, патрыёт, Вял.Кн.Літоўскае" і інш. Я разумею, што да гэткай "саромлівасьці", што да беларускасьці прымушалі аўтара абставіны, у якіх праца была пісана й выдана. Затое цяпер аўтар павінен сваю цэнную працу пералажыць на беларускі язык, паставіць "беларускія точкі" над усімі "і", раскрыць усе "дужкі", паставіць, дзе трэба, "беларускія націскі" і... па-беларуску выдаць. Але хто выдасьць? Гэтая кніжка мусіць праявіць сваю беларускую "душу" й мусіць прыадзецца ў сваю беларускую "вопратку".

За слонімскі перыяд жыцця кс. Адамам Станкевічам было напісана яшчэ шэраг артыкулаў і рэцэнзій. Тут, у Слоніме, ён дапамог паэту Анатолю Іверсу наладзіць сувязі з Вільняй наконт выдання яго першага паэтычнага зборніка "Песьні на загонах". Пра гэта паэт напісаў успаміны і надрукаваў іх у газеце "Культура" 25 студзеня 1993 года...

Амаль год пражыў Адам Станкевіч у старажытным горадзе над Шчарай. І толькі адзін раз яму і Адольфу Клімовічу з Варшавы дазволілі ваяводскія ўлады наведаць Вільню. Гэта адбылося ў 1939 годзе на Велікодныя святы. А восенню таго ж года ён ужо назаўсёды развітваецца са Слонімам і вяртаецца ў сталіцу Беларусі і Літвы.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**



**НА ЗДЫМКУ: Слонімскі касцёл бернардзінак, дзе вёў службу ў 1939 годзе Адам Станкевіч...**

**Фота аўтара.**

Варта нагадаць такія памятныя радкі з верша, прысвечанага гадавіне выхаду ў свет газеты "Наша ніва":

**Хто хацеў, той і смеў рабаваці,**
**Без прыпросу з"язджаліся**
**госці —**
**Абдзіраць, аб"ядаць, апіваці**
**І крышыць гаспадарскія косці.**

Гэта быў агульны боль нашай літаратуры — усведамленне той крыўды, якую чынілі беларускаму народу чужынцы. Паэзія на ўвесь голас, на ўвесь свет абуралася, скардзілася, пратэставала. Але яна клікала таксама да адпору. У ёй выказвалася і ўвасаблялася воля народа.

* * *

Алесь Гарун увайшоў у гісторыю беларускае літаратуры і як выдатны празаік. На працягу 1912—1915 гадоў у "Нашай ніве" з"явіліся чатыры ягоныя празаічныя творы: кароценькая алегарычная легенда "Першы снег" і апавяданні "Пан Шабуневіч", "Маладое", "Чалавек без крыві". Пасля вяртання з Сібіры ў "Вольнай Беларусі" пісьменнік апублікаваў яшчэ тры апавяданні: "Свята", "П"ера і Каламбіна" і "У Панасавым сяле". Празаічныя творы, як правіла, падпісваў псеўданімам І.Жывіца (Жывіца —дзявочае прозвішча маці Гаруна).

Трывожная праблема нацыянальнага бяспраўя беларусаў пры самадзяржаўным ладзе, яшчэ перад першай сусветнай вайной, натхніла пісьменніка на стварэнне апавядання "Пан Шабуневіч". Герой яго, звычайны шавец, нястомна, штодзённа змагаецца за права карыстацца роднай мовай за межамі дома, за права звацца беларусам. Вывад з апавядання напрошваецца адзін: ідэі беларускага адраджэння дайшлі ўжо да простых людзей, да іх свядомасці і пачуццяў. Ад іх у канчатковым выніку і будзе залежаць лёс беларушчыны.

Вельмі нетрадыцыйным з"яўляецца апавяданне "Маладое". Тут рэальнасць пераплятаецца з фантастыкай: група зняволеных, якая ўцякла з астрога, магла праходзіць незаўважанай, нават найбольш блізка мінаючы людзей.

Твор наводзіць на сур"ёзныя разважанні. Вырваўшыся на волю, людзі ішлі і ішлі да нейкае мэты, якая давала сілы, вытрымку, хоць падарожнікі ад перанапружання знемагаліся. Некаторыя нават не вытрымлівалі і адсейваліся. Але асноўная частка ішла і ішла туды, куды вёў адзін з іх асяроддзя.

Само апавяданне ўспрымаецца як нейкая алегорыя. Героі апынуліся ў экстрэмальных умовах. Яны пераносяць пакуты і ахвяры дзеля той волі, да якой імкнуцца, мабілізуючы ўсе свае фізічныя і духоўныя сілы. Але ў імя чаго яны пакутуюць? Вось гэтага аўтар не паказвае. І тут узнікае пытанне: дзе тая мэта, ці не ілюзорная яна, ці рэальная? Ці апраўданы ўсе нечалавечыя намаганні і пакуты? Такія пытанні ўзнікаюць перад чытачом.

Рэальным у кожнай драбніцы з"яўляецца апавяданне "Свята", прысвечанае апісанню жыцця і побыту палітычнага пасяленца ў Сібіры — маладога Грыневіча родам з Беларусі. Начуючы ў незнаёмых людзей, ён выпадкова даведаўся, што цяжкахворая старая жанчына ў той сям"і — сястра ягонай роднай бабулі. Ён чуў пра яе яшчэ дома, але ніхто там не ведаў пра яе лёс.

Апавяданне выклікае цікавасць, з аднаго боку, рэалістычнай абмалёўкай жыцця пасяленцаў — і тут, бясспрэчна, нямала аўтабіяграфічнага — ды і побыту сібіракоў, іх нораваў і звычаяў.

А яшчэ ў творы — выпадкова ці не выпадкова — нейкім незвычайным матывам усплывае пераклічка рэвалюцыйных падзей розных гістарычных эпох. Маладаы пасяленец Грыневіч трапіў у Сібір за палітычную дзейнасць — трэба меркаваць, што за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905—1907 гадоў. А галоўным і па сутнасці адзіным арыенцірам у часе для старэнькай жанчыны служылі колішнія паўстанні, з якімі пераплянуліся лёсы блізкіх ёй людзей. Так храналагічныя рамкі апавядання пашырыліся ў глыбіню мінулага стагоддзя — да 1863 і нават да 1830 года.Шырокія і прасторавыя рамкі падзей у творы. Хоць яго героі — па сваёй ці не па сваёй волі — трывала заснаваліся ў Сібіры, але і паходжаннем, і думкамі яны звязаны з радзімаю, з далёкай Беларуссю. Так вызначылася духоўная сувязь розных пакаленняў, што на далёкім выгнанні прыходзяць на змену адны другім, захоўваючы вернасць роднай зямлі.

Апошнім празаічным творам пісьменніка з'яўляецца апавяданне "У Панасавым сяле". Фундаментам усёй ідэйна-мастацкай канцэпцыі яго становіцца фантастыка. Супярэчлівыя і шматпланавыя падзеі падаюцца ў інтэрпрэтацыі незвычайнага назіральніка — чорта з "нялюдскім розумам".

Самі падзеі разгортваюцца на беларускай зямлі, прытым нават Панасава сяло, што па волі аўтара апынулася на небе, бачыцца нейкім закуткам Палесся, бо там пасяляюцца радавітыя палешукі са сваімі рэальнымі зямнымі норавамі, звычкамі, уяўленнямі, якія надзейна ўкараніліся ў іх псіхіку і побыт.

І ў той жа час палешукі — недарма ж яны на небе! — вызваляюцца ад найбольш істотных і трывожных зямных праблем: ад думак і клопатаў пра свой хлеб надзённы, пра зямлю, працу, пра ўсё тое, што складае аснову існавання кожнага селяніна. Для герояў ствараюцца спецыяльныя ўмовы, над імі не вісіць кашмар паўсядзённага змагання за месца пад сонцам. Людзі трапляюць у рай, але з усімі сваімі зямнымі звычкамі, норавамі, традыцыямі.

А ці становяцца яны адразу святымі? Ні ў якім разе. Кожны з іх застаецца самім сабой. Адсюль чытач можа зрабіць вывад, што ў якія б умовы чалавек ні трапіў, у яго заўсёды захаваецца нешта сваё, атрыманае ў спадчыну ад стагоддзяў, выпрацаванае ўласным лёсам, побытам, асяроддзем.

У сувязі з гэтым напрошваецца адна думка, адно пытанне: ці Панасава сяло на небе не ўяўляе сабою алегарычнай формы паказу нейкага будучага грамадства, у якім людзі атрымаюць зусім новыя магчымасці ўладкоўваць свой лёс?

Кажучы па-сучаснаму, пісьменнік на прыкладзе нябеснага пасялення змадэліраваў некаторыя працэсы, якія адбываліся на зямлі, ахопленай рэвалюцыйнымі катаклізмамі У Панасавым сяле ўсталяваны лад жыцця пачаў нечакана разбурацца, прычым дашчэнту: "Не тыя пайшлі парадкі, не даўнейшыя. Хто ў пашане быў, той цяпер тамака ў запечку сядзіць, а той, чыйго духу там даўней не было, — найбольшую пашану мае".

Нават Панас, які заснаваў нябеснае сяло, аказаўся пазбаўленым усяго, што меў. Не так ужо цяжка здагадацца, які рай меў на ўвазе пісьменнік, абмалёўваючы змены ў жыцці нябеснага пасялення. Тым больш, што моладзь, якая накіроўвалася ў Панасава сяло, наймацней абуралася тым, што ён "на добрую гаспадарку ўзлез". За яе "дык глынуць, здаецца, гатовы". Усё гэта ўспрымаецца як алегарычная абмалёўка тых парадкаў, што ўсталёўваліся рэальна ў той час.

Пра ўсе гэтыя змены чорт апавядае з добрым гумарам, сакавіта і каларытна: "Палешукі толькі вочы таропілі на тое, што дзеецца, але покуль раскусілі гарэх, дык час прабавілі — спозніліся. Цяпер, папраўдзе, дык не яны ўжо гаспадары, але гэныя, новыя. Панаса з хаты яны выгналі, той сабе ў варэннай (на кухні. — **У.К.**) ціханька сядзіць, як мыш у мяшку, ды толькі вохкае, каб чаго горшага не дачакацца. Рэшта палешукоў сядзяць і не рыпаюцца на што-небудзь". Пры вырашэнні нейкіх спраў на першым месцы аказвалася партыйная прыналежнасць ("А за новымі парадкамі паляшуцтвам ужо мала цікавіліся: больш пыталіся, з якой партыі") ды яшчэ ўменне добра малоць языком.

# НА ХВАЛІ АДРАДЖЭННЯ

# ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ПОДЗВІГ АЛЕСЯ ГАРУНА




Малітва
26/X 1912.

Аўтар не ідэалізуе сялян, але ўсё ж такі чытач пазірае на іх з сімпатыяй. Паляшук заўсёды і ўсюды застаецца самім сабою — самастойным у думках і ў паводзінах, незалежным, не надта падатлівым на чужыя ўплывы, на ўспрыняцце модных ідэй.

У канцы апавядання гаворка непрыкметна пераводзіцца на рэальныя беларускія справы:

"...Што ж у вас тут, якія навіны?

— Ад ліха — ціха, дабра не чуваць...

— Ці хутчэй: "Папаўся ў нерат — ні ўзад, ні ўперад"? А Рада што?

— Рада — як Рада..."

Вось гэты развітальны абмен думкамі, увасобленымі ў шырокавядомыя прыказкі, уяўляецца зусім не выпадковым. Многія ў той час яшчэ верылі, што Рада і кіраўніцтва БНР мелі нейкую рэальную магчымасць вырашаць лёс Беларусі. "Дабра не чуваць" — гэта і сапраўды была самая адчувальная рэальнасць. Апавяданне апублікавана ў 1920 годзе, у перыяд чужаземнага панавання. Колішнія ілюзіі аб поўнай незалежнасці нашай зямлі, увасобленыя ў самой назве вядучай газеты 1917—1918 гадоў "Вольная Беларусь", рассеяліся. І не выпадкова на змену ёй прыйшла газета "Беларусь".

Празаічныя творы Алеся Гаруна — жывое сведчанне няўхільнага пашырэння ідэйна-тэматычных абсягаў беларускае літаратуры, яе імклівага ўзбагачэння ўсё новымі жанравымі і мастацкавыяўленчымі сродкамі, бясспрэчнага росту пісьменніцкага майстэрства саміх аўтараў.

***

Настойлівыя ідэйна-творчыя пошукі вызначыліся і ў драматургіі Алеся Гаруна. Перад самай смерцю, у 1920 годзе, пісьменнік выдаў зборнік п'ес для дзіцячага тэатра "Жывыя казкі" ("Хлопчык у лесе", "Шчаслівы чырвонец" і "Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць").

У іх вельмі арганічна спалучаецца народная казачная фантастыка і багацце фантазіі самога аўтара, раскрываецца свет дзіцячых уяўленняў. Усе канфлікты, увесь ход падзей падпарадкаваны ў іх задачы ўслаўлення так патрэбных людзям маральных прынцыпаў справядлівасці, непрымірымасці да падману, фальшу, пачуцця спагадлівасці людзям — тых якасцей, якія павінны выпрацоўвацца яшчэ ў дзіцячым узросце, каб назаўсёды стаць нормамі паводзін чалавека.

"Хлопчык у лесе" — паэтычная гісторыя прыгодаў малога вясковага Хлопчыка, які, заблудзіўшы і заснуўшы ў цёмным, страшным лесе, трапіў у царства магутнага чараўніка і выратаваў запалоненых ім дзяўчат. Гаспадарамі самога лесу былі добрыя духі, увасобленыя ў вобразах кветак — Незапамінайкі, Званочкаў, Ружы. Гэта яны заапекаваліся Хлопчыкам, і дзякуючы ім ён трапіў у казачную краіну. А там, не пабаяўшыся пакалечыць свае рукі, дабыў заклятую жалейку, якая дазволіла яму перамагчы і выгнаць гаспадара зачараванага царства.

Тут мы бачым казачную фантастыку, прытым нетрадыцыйную і незвычайную. У лесе існуюць — незалежна адзін ад аднаго — два зачараваныя светы: адзін — заселены добрымі духамі-кветкамі і другі — той, што знаходзіцца пад уладаю чараўніка. Першы ўяўляецца часткаю рэальнага свету, таго лесу, у якім заблудзіў і заснуў Хлопчык, а другі — схаваны ад людскога вока. Але пра яго існаванне і пра тое, што там адбываецца, ведаюць добрыя духі — Незапамінайка, Званочкі, Ружы. Гэта яны насылаюць на Хлопчыка такі сон, у якім ён трапляе да запалоненых дзяўчат.

І што самае арыгінальнае — са сну Хлопчык вярнуўся ў рэальны свет з усім тым, што ён атрымаў там ад вызваленых палонніц. А гэта былі не абы-якія падарункі: боты-скараходы, шапка-цемязень, незвычайнае адзенне, залаты клубочак. А разам яшчэ і зачараваная жалейка.

У казцы атрымалася, што той свет, дзе панавала змрочная сіла чараўніка, перастаў існаваць: гаспадар яго ўцёк назусім, вызваленыя дзяўчаты павінны вярнуцца туды, дзе яны былі запалонены. Хлопчык прачнуўся і пайшоў у сваю хату. А ў тым цёмным царстве не засталося нікога. Затое ж добрыя духі-кветкі на сваіх месцах, напэўна, і надалей будуць спагадаць усім, хто трапіць у бяду.

У казцы "Хлопчык у лесе", напісанай вершам, шмат песень з нотамі. Гэта яшчэ адно сведчанне шматграннасці таленту аўтара.

Алесь Гарун не толькі ў паэзіі ці прозе, але і ў драматургіі ішоў нетрадыцыйным шляхам. Гэта бачна і ў казцы "Шчаслівы чырвонец". Мы добра ведаем, што жабракі могуць толькі прасіць літасці ў людзей. Такімі яны па непарушнай, здавалася б, традыцыі паказваюцца і ў мастацкіх творах. А вось у казцы "Шчаслівы чырвонец" старая, хворая, зусім слабая Жабрачка ходзіць па свеце для таго, каб памагаць людзям. Яна сама раскідае па дарозе чырвонцы, якія, аднак, прыносяць шчасце толькі сумленным людзям.

І ў гэтай казцы перамагаюць дабро, справядлівасць, праслаўляецца спагадлівасць. Мы бачым, што праўда і крыўда, дабро і зло ўвесь час супрацьстаяць.

Казкі Алеся Гаруна сваім зместам выхоўваюць у малых чытачоў і гледачоў найлепшыя чалавечыя якасці. А яшчэ ў іх вельмі каларытна раскрываюцца дзіцячыя характары, паказваюцца іх гульні і ўяўленні.

Сваёй мастацкай творчасцю, паводзінамі, усім жыццём пісьменнік даваў новым пакаленням жывыя ўрокі мужнасці і патрыятызму, паказваў, як трэба берагчы і славіць бацькоўскую зямлю і матчыну мову. Ён выносіў няшчадны прысуд здрадлівасці, прыстасаванству, сацыяльнай несправядлівасці, няпраўдзе і фальшу. Сваім мастацкім словам ён, не стамляючыся, будзіў чалавечае сумленне і праведны гнеў супраць усяго заганнага ў жыцці.

Уладзімір **КАЗБЯРУК.**

Заканчэнне.
Пачатак у № 13.

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ






# ГАСПАДЗІН МАСТАЦТВА — ПРЫГАЖОСЦЬ

75-м угодкам БНР прысвечана выстава ў Палацы мастацтва. Арганізавала яе мастацкая суполка "Пагоня". На адкрыцці выставы кіраўнік суполкі "Пагоня" Аляксей Марачкін назваў сёлетні юбілей святам на ўвесь свет.

Прывітаў прысутных і Васіль Быкаў, які казаў, што мастак мае права быць вольным і не абавязаным нікому:

— Адзіны гаспадзін мастацтва — прыгажосць. І ў народа заўсёды былі свае крытэрыі прыгажосці. Суполка "Пагоня" скіравана на зварот да народнага жыцця. У працах мастакоў "Пагоні" яскрава выказана нацыянальная ідэя. А вяртанне да яе — умова поспеху адраджэння.

Яшчэ са словамі прывітання выступілі старшыня Саюза мастакоў Генадзь Буралкін, паэт Рыгор Барадулін, спявак Данчык.

Музычны гурт "Скарбніца" цешыў слых прысутных беларускай старажытнай музыкай. Яна і атмасфера ў зале абумовілі пытанне, з якім глядзелася выстава: што складае нацыянальную ідэю ў мастацтве? І як яе адчуць у працах мастакоў?

Карціны У.Сулкоўскага прымушаюць кожны раз пры сустрэчы з імі дзівіцца прыгажосці беларускай прыроды і ўменню аўтара яе паказаць. На выставе прадстаўлены пейзажы "Навальніца на Палессі", "Возера Поцех", "Дзічка". Карціны гэтыя глыбока нацыянальныя. Здаецца проста немагчымым, каб гэта было напісана недзе па-за Беларуссю.

В.Маркавец прапануе карціну "Ліхтары", на якой пануе зялёны колер, святло ліхтароў стварае атмасферу таямнічасці.

Для карцін Ф.Бараноўскага ("Кветкі Браслаўшчынны", "Край нарачанскі") характэрная светлая, лёгкая гама колераў. Здаецца, гэта той выпадак, калі праз прыроду мастак паказвае характар людзей, якія жывуць сярод яе. Характар гэты трэба хутчэй адчуць, чым зразумець. А для гэтага ўбачыць карціны.

Незабыўныя працы мастака Батальёнка "Раніца", "У прасвеце". Усё на іх проста і вельмі выразна. На адной — возера, на другой —вёсачка на ўзгорку. На карціне "Далучэнне" — цень ад царквы падае на поле. "Абуджэнне" — гэта халодны ранак, напісаны такімі ж халоднымі фарбамі. Карціны мастака (на выставе ёсць яшчэ "Ранішняя малітва", "Старая мелодыя") духоўна напоўненыя. Калі глядзіш на гэтыя працы, разумееш сувязь мастака і сваю з зямлёй. І думаеш: можа, нацыянальная ідэя на гэтых палотнах у абуджэнні светлых пачуццяў да сваёй краіны?

Прынята лічыць, што нацыянальны дух у творчасці мастака — гэта дачыненне да культурных, духоўных традыцый свайго народа. У гэтым сэнсе нельга не адзначыць творы Аляксея Марачкіна ("Прывіды зімы", "Анёлы маёй зімы"). Гэта працы, праз якія бачыш мастака, які думае вобразна, асацыятыўна і вымушае нас рабіць тое ж. Думкі гэтыя неадрыўныя ад Беларусі. Тут жа трэба сказаць і пра карціну Г.Вашчанкі "Гетман



Астрожскі", напісаную сёлета. У ей рамантычны настрой. Яна абуджае ўспаміны пра мінулае Беларусі.

Канешне, на выставе ёсць і слабыя працы. Некаторыя з іх бянтэжаць адкрытай кан"юнктурнасцю. Тут і букецік бляклых нарцысаў, перавязаных бела-чырвона-белай стужачкай. Тут і шэры натоўп на мітынгу. Кожны з людзей на ім, здаецца, крычыць пра сваё.

Нацыянальны характар, каштоўнасці беларусаў схаваны глыбей, чым паказаны ў такіх карцінах. Яго лягчэй знайсці, напрыклад, у скульптурах У.Слабодчыкава з іх зваротам да народнага жыцця і асабістай сістэмай вобразнасці ("Жанчына, якая нясе рэзгіны"). Ці нават у незвычайных працах Ю.Хілько "Ліст N 1", "Ліст N 2", ... "Ліст N 7". Пра іх цяжка пісаць. Яны — матэрыялізацыя пачуццяў, настрою на палатне.

Ёсць на выставе некалькі народных касцюмаў, старая зброя.

Ёсць даволі незвычайны экспанат — мемарыяльная дошка, якая павінна была адкрыцца сёлета на доме, дзе 25 сакавіка 1918 года была абвешчана БНР. Чаму ж дошка не была прымацавана па сённяшняй вуліцы Валадарскага, якую многія хацелі б называць вуліцай братоў Луцкевічаў? Ды таму, як тлумачаць арганізатары выставы, што "для бальшавікоў, якія па-ранейшаму пры ўладзе ў Мінску і на Беларусі" 25 сакавіка —не свята. І дошку павесіць на дом, дзе быў абвешчаны Акт 25 сакавіка, проста не дазволілі.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: мемарыяльныя дошка, якая павінна была быць устаноўлена на будынку на вуліцы Валадарскага ў Мінску; экспанаты выстаўкі.**

# КАРМЯНСКІЯ ВАЛЫНЦЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

Ускосна ўказваюць на патомкаў-перасяленцаў з Украіны назвы населеных пунктаў **Казакі** (былыя Дзісенскі, Лепельскі, Лідскі паветы), **Казачкі** (былы Дзісенскі павет).

Звяртаюць на сябе ўвагу геаграфічныя назвы, якія ўтвораны ад найменняў розных населеных месцаў і абласцей Украіны: **Вінніца** (вёска Навагрудскага раёна), **Харкаў** (пасёлак Хоцімскага раёна), **Харкаўка** (вёскі Горацкага, Аршанскага, Чавускага раёнаў), **Кіеўшчына** (засценак былога Барысаўскага павета), **Кіевец** (вёска Валожынскага раёна, былая вёска Сенненскага павета), Кіеўка (засценак былога Аршанскага павета) і іншыя. Акрамя міграцыйных працэсаў, прычыны ўзнікнення такіх геаграфічных назваў могуць быць самымі рознымі, у тым ліку і такія, як папулярнасць першапачатковага аб'екта, асабістыя ўражанні жыхароў, якія пабывалі ў іншых мясцінах і гарадах, іранічнае, кпліваe стаўленне да аб'ектаў, якія называюцца. Прычыны ўзнікнення назвы ў кожным выпадку індывідуальныя, прычым назіраецца наступная заканамернасць: чым меншы аб'ект (сярод населеных пунктаў гэта хутар, засценак, фальварак), тым больш верагодны метафарычны, вобразны характар назвы. Гэтакай, напрыклад, з'яўляецца назва **Галіцыя** (два хутары Ашмянскага раёна, фальварак былога Ашмянскага павета), дадзеная ўладальнікамі, магчыма, у сувязі з якімі-небудзь асабістымі асацыяцыямі.

Аднак несумненна, што сярод пералічаных геаграфічных назваў маюцца і такія, якія ўказваюць на даўнія міграцыйныя працэсы, на перасяленні, на гістарычныя сувязі сучасных украінскіх і беларускіх зямель (назвы тыпу **Валынцы** менавіта такія). Напрыклад, вядомы вучоны-славіст, этымолаг Алег Трубачоў лічыць, што найменні накшталт **Кіевец**, **Кіеўка** ўзнікалі яшчэ падчас руху ўсходнеславянскіх плямёнаў з поўдня на поўнач, з ваколіц Кіева ў неабжытыя раёны Верхняга Падняпроўя, парэчча Акі і ў іншыя мясціны. Ён піша: "Без Кіева — цэнтра і крыніцы далейшага руху — нельга зразумець саміх старажытнарускіх каланізацыйных рухаў, нельга зразумець складанага ўсходнеславянскага адзінства... На Украіне, па сутнасці, Кіеў — адзін, але — буйны (таму, відаць, і адзін!) з усіх пяцідзесяці і больш даволі маленькіх Кіеваў славянскіх... Але наш Кіеў не спыніўся на гэтым высокім дняпроўскім беразе, а ў ліку іншых шляховых вех абазначыў старажытны паход за асваенне рускага Паўночнага Захаду".

Цікавую інфармацыю даюць і геаграфічныя назвы тыпу **Чаркасы**. Яны ўзніклі ад "калектыўных мянушак" — **чаркасы**, якія ў сваю чаргу ўзыходзяць да этнічнага абазначэння **чаркасы**. Апошняе ж утварылася ад этнічнага імя **чаркесы**. У мінулым слова **чаркесы** з'яўлялася агульным найменнем для шматлікіх груп родных па паходжанню плямёнаў Паўночнага Каўказа. Самі сябе гэтыя людзі называлі **адыге**, а старажытнарускія летапісы з X стагоддзя ведалі іх як **касогаў**. У час мангольскага нашэсця і ў наступны перыяд у старажытнарускіх крыніцах касогі, з якімі ўсходнія славяне мелі даволі трывалыя гандлёвыя, палітычныя кантакты, сталі называцца **чаркасамі** і **чаркесамі** (пад уплывам, відаць, заходнееўрапейскіх моў і пісьмовых помнікаў, дзе данае найменне ўжывалася і раней). Асобныя групы касогаў-чаркесаў праніклі ў паўднёварускія стэпы, спачатку на Дон, а потым і ў Падняпроўе і нават у больш паўночныя раёны (напрыклад, у Жлобінскім раёне Гомельскай вобласці да снежня 1966 года існавала вёска **Касагі**, якая потым злілася з населеным пунктам Казімірава). Ужо ў XIV стагоддзі на Дняпры існавала пасяленне **Чаркасы** (сёння абласны цэнтр Украіны), якое першапачаткова было нейкай гандлёвай стаянкай чаркесаў-чаркасаў. Паступова славянскае насельніцтва Сярэдняга Падняпроўя з боку іншай часткі ўсходнеславянскіх пасяленцаў у суседніх раёнах пачало называцца таксама **чаркасамі**. У XVII стагоддзі гэтае найменне ў адносінах да маларосаў-украінцаў стала настолькі распаўсюджаным, ужывальным, што выкарыстоўвалася нават у дзяржаўных дакументах Масковіі (напрыклад, у 1653 годзе, яшчэ да далучэння Украіны да Расіі, рускі цар Аляксей Міхайлавіч патрабаваў ад караля Рэчы Паспалітай, каб той супакоіў міжусобіцу паміж панамі і чаркасамі). Узнікненне геаграфічных назваў тыпу **Чаркасы** (ды й **Валынцы** таксама, у тым ліку і **Валынцы кармянскія**) на беларускіх землях, такім чынам, было абумоўлена перасяленнямі чаркасаў-маларосаў у XVI–XVII стагоддзях (асабліва пасля падзей 1654 года, ды і напярэдадні гэтых падзей), а таксама перамяшчэннямі часткі славянскага насельніцтва з Сярэдняга Падняпроўя (чаркесаў-чаркасаў) у паўночным кірунку ў яшчэ больш раннія часы. Апошняе датычыцца толькі назваў тыпу Чаркасы.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

# БЕЛАРУСЬ — СЛАВАКІЯ

Нядаўна дэлегацыя Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь па запрашэнню Міністэрства культуры Славацкай Рэспублікі наведала сталіцу Славакіі горад Браціславу і правяла там перагаворы аб супрацоўніцтве паміж Міністэрствамі культуры дзвюх краін.

Падрыхтавана пагадненне, у якім прадугледжваецца шырокі ўзаемны абмен дасягненнямі нацыянальных культур братніх народаў. Асноўнае месца ў гэтым пагадненні адводзіцца фестывалям, гастролям, святам прафесійнага тэатра і музыкі, выставам выяўленчага мастацтва, абмену калектывамі народнай творчасці, выканаўцамі і пастановачнымі групамі спектакляў, арганізацыі стажыровак, семінараў, канферэнцый, пастаяннаму інфармацыйнаму абмену.

Прадугледжана таксама супрацоўніцтва ў галіне кінамастацтва, бібліятэчнай і музейнай справы, аховы помнікаў і іншае.

Толькі за апошнія два гады Славакію наведалі многія творчыя калектывы і дзеячы мастацтва і культуры Беларусі. Сярод іх — камерны хор Беларускай дзяржаўнай філармоніі, які ўдзельнічаў у традыцыйных Браціслаўскіх музычных святах, Беларускі акадэмічны тэатр імя Я.Купалы, што пабываў на гастролях у Славакіі са спектаклем "Тутэйшыя" Я.Купалы...

У сваю чаргу шэраг творчых калектываў і дзеячаў культуры Славакіі наведалі Беларусь і прымалі ўдзел у міжнародных фестывалях "Славянскія тэатральныя сустрэчы", "Студыйныя калядьі-91", мелі творчыя кантакты з навучальнымі ўстановамі, музеямі, тэатрамі і музычнымі калектывамі Беларусі.

З падрыхтоўкай пагаднення аб супрацоўніцтве на 1993—1995 гады культурныя сувязі Славакіі і Беларусі набываюць новы размах і перспектыву.

*ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА*




**14 красавіка, серада**

## ДАСЛЕДЧЫК СЛАВЯНСКАЙ ГІСТОРЫІ

**Уладзімір Завітневіч нарадзіўся ў вёсцы Ліцвяны Мінскай губерні (цяпер Уздзенскі раён) у сям'і праваслаўнага святара. Пасля атрымання ніжэйшай адукацыі і заканчэння ў 1874 годзе Мінскай духоўнай семінарыі ён паступіў у Пецярбургскую духоўную акадэмію, якую скончыў у 1879 годзе. Адразу ж заняў пасаду настаўніка ў Варшаўскім духоўным вучылішчы. Яго першая навуковая праца "Палинодия" Захария Копыстенского и ее место в истории западно-русской полемики XIV—XVII вв." адразу ж прыцягнула ўвагу вучоных. У 1883 годзе У.Завітневіча абралі дацэнтам Кіеўскай духоўнай акадэміі. З 1899 года ён — прафесар, а з 1902 года — доктар царкоўнай гісторыі.**

**У.Завітневіч падрыхтаваў больш за 80 навуковых работ. Творы яго заўсёды добра аргументаваныя і адзначаюцца высокай навуковасцю. Самыя значныя: "Владимир святой как политический деятель" (1880 г.) і "Алексей Степанович Хомяков" (1902—1913 гг.). У астатнім гэта артыкулы, якія прысвячаліся кожны раз пэўнай гістарычнай тэме. Гістарычны вопыт пераносіўся на сучаснасць, таму большасць з іх захавала актуальнасць і ў наш час. Архіўныя пошукі У.Завітневіч дапаўняў археалагічнымі. Ён вызначыў межы рассялення славянства, у прыватнасці, дрыгавічоў.**

**Педагагічная дзейнасць У.Завітневіча доўжылася каля 30 гадоў і датычыла не толькі рускай грамадзянскапй гісторыі, але і літаратуры, геаграфіі. Галоўны накірунак яго спецыялізацыі — старажытная славянская гісторыя. Змястоўнасцю і манерай выкладання яго лекцыі прыцягвалі шмат слухачоў. Уладзімір Зянонавіч прытрымліваўся славянафільскіх пазіцый, у пэўнай ступені ідэалізаваў славянства. У рускім народзе, у першую чаргу сялянстве, ён бачыў пласты нявыкарыстанай стыхійнай сілы. У саборнасці, абшчыннасці, узвышэнні маральнасці крыецца, на яго думку, і шлях маральнасцевага прагрэсу. Асуджаў ён тыранію, стыхію натоўпу, бюракратызм.**

**У жыцці У.Завітневіч быў заўсёды надзвычай таварыскі, уважлівы і лагодны чалавек, карыстаўся вялікім аўтарытэтам і павагай. Сучаснікі аб ім пісалі так: "Даследавальнік уважлівы, працавіты амаль да самааддання, таленавіты, які ведае сваю справу і таму можа быць іншы раз урачысты ў сваіх канчатковых высновах і дзе-нідзе сурова рэзкі ў сваіх меркаваннях".**

**Уладзімір КІСЯЛЁЎ.**

## КАНСТРУКТАР З ПРАВІНЦЫІ

По свету Сцяпан Алексіевіч пабадзяўся. Працаваў у Сібіры, на Далёкім Усходзе, у Грузіі. Але душа, як кажуць, не прымала чужых краёў. Вярнуўся на радзіму — у Крупкі Мінскага раёна, сеў за абаранак аўтамабіля.

Але з гадамі стаў падводзіць зрок. Прыйшлося пакінуць любімую справу, толькі з тэхнікай не растаўся: сканструяваў асабісты аўтамабіль.

— Жыццё вымагла, — кажа Сцяпан Ягоравіч. — Маю дзве каровы, цялё, чатыры свінні... Нялёгка пракарміць такую араву. Вось і патрэбна свая тэхніка, каб сена прывезці, угнаенні на поле даставіць.

Аб адным шкадуе селянін: мясцовая аўтаінспекцыя ўвяла для яго абмежаванне хуткасці — усяго 20 кіламетраў у гадзіну. Затое дакумент на кіраванне аўтамабілем ёсць.

Гэта, дарэчы, не адзіная навінка асабістай канструкцыі сельскага рацыяналізатара. У гаспадарцы Алексіевіча ёсць яшчэ і самаходны плуг (нешта накшталт мотаблока), шматаперацыйны сталярны станок. У задуме — новая, больш магутная мадэль самаходкі. Вось толькі за вялікай гаспадаркай не так проста выбраць час для свайго хобі.

Дзе ж Сцяпан Ягоравіч у наш цяжкі век бярэ неабходныя дэталі для сваіх канструкцый?

— Лічыце, — гаворыць рацыяналізатар, — на звалцы. Спісанай тэхнікі многа. Так што праблем з гэтым няма.

Па сваёй натуры Алексіевіч добры чалавек і ахвотна дапамагае сяльчанам сваімі навінкамі ў час палявых і нарыхтоўчых работ.

**А. ВІКТАРАЎ.**

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## ЛЮЛІ, ЛЮЛІ, ЦЭЛЫ ДОМ СПІЦЬ



**Люлі, люлі, цэлы дом спіць,
А каток на печы сон сніць.
Люлі, люлі, люлі. (2)**

**Ціха, мышка, варушыся,
Бо каточак прытварыўся.
Люлі, люлі, люлі. (2)**

**Як пайшоў каток на ганак,
Знайшоў маток абаранак.
Люлі, люлі, люлі. (2)**

**Таму-сяму прадаваў,
А Манечцы дарма даў.
Люлі, люлі, люлі. (2)**

**Скочыў коцік у мякіну,
А Манечка — у пярыну.
Люлі, люлі, люлі. (2)**

*СПОРТ*

### НА ПРЫСТУПКУ ВЫШЭЙ

Добрая змена дарослым хакеістам расце ў Беларусі. Нашы юніёры на першынстве Еўропы ў фінале згулялі ўнічыю са зборнай Славеніі — 3:3, пасля перамаглі славакаў з лікам 4:1 і занялі першае месца. У наступным годзе юніёры рэспублікі будуць гуляць у класе "В".

### У ПАРЫ — ПЕРАМОГІ

Міжнародная федэрацыя тэніса ў табліцы лепшых спартсменак свету ў парным разрадзе безагаворачна паставіла на першае месца мінчанку Наталлю Звераву. У апошнія гады беларуска выбірае сабе ў напарніцы амерыканку Д. Фернандэс і не памыляецца: што ні спаборніцтва, то перамога.

Так здарылася і нядаўна. Гэтыя выдатныя тэнісісткі на турніры ў Нью-Йорку выйгралі рашаючую сустрэчу ў пары Ларыса Нейланд (Латвія) — Аранта Санчэс (Іспанія) і заваявалі галоўны прыз.

### ЗАПОМНІМ ГЭТА ІМЯ

У вялікім спорце імя мінчаніна Івана Іванкова — новае. І таму выдатнае выступленне гімнаста на міжнародных спаборніцтвах у Парыжы ў розыгрышы прыза "Берсі" выклікала сенсацыю. Наш спартсмен першынстваваў у апорным скачку, стаў другім у адвольных практыкаваннях і трэцім на кольцах і брусах.

### КАРПІНКІН НЕ ПАДВЁЎ

Беларускі лыжнік Генадзь Карпінкін сёлета ўдала выступіў на студэнцкай Універсіядзе ў Закапане (Польшча).

А ў апошнія дні сакавіка прыняў удзел у Свяце Поўначы. Тут за дзве ўзнагароды ў біятлоне ён быў аб'яўлены абсалютным чэмпіёнам.

Пасля Генадзь паспрабаваў сябе тут (упершыню ў сваім жыцці!) і ў 50-кіламетровай лыжнай гонцы. І зноў поспех: беларускі спартсмен заняў другое месца, уступіўшы пераможцу з Украіны Мікалаю Прыдатку ўсяго... адну секунду.

### ЛУК'ЯНЕНКА Ў ПАРЫЖЫ

Усіх мацнейшых спартсменак свету па мастацкай гімнастыцы сабраў міжнародны турнір у Парыжы. Галоўнай гераіняй гэтых спаборніцтваў стала мінчанка Ларыса Лук'яненка. Яна стала першай у практыкаваннях з булавамі, мячом, абручом і трэцяй — у практыкаванні з лентай.



**Для нас, беларусаў, вярблюд — жывёла экзатычная. Многія бачылі яго хіба ў заапарку ці цырку. Цяпер жа для мінчан сустрэча з "караблём пустыні" стала амаль што звычайнай з'явай. Ва ўсякім разе той, хто бывае ля цырка, можа ім палюбавацца ўволю, а пакатацца, заплаціўшы 50 рублёў, дазваляецца толькі дзецям. Не ад добрага жыцця сталі выкарыстоўваць вярблюдаў не па прызначэнню. Прычына для нас зразумелая: жывёлы, якія выступаюць у цырку, вымушаны зарабляць сабе на пракорм.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 531. Падпісана на друку 5.04.1993.